# З Першым Маем, сябры!





# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 18 (1105) ГОД XXII БЕЛАСТОК 1 МАЯ 1977 г. ЦАНА 60 гр.


ШЛЯХАМ ГАДОЎ

## ІМЕМ ЯЕ НАЗВАНА ВУЛІЦА...

Пачатак гэтаму артыкулу даў ліст чырвоных следапытаў з клуба „Гвардзеец" Пружанскай сярэдняй школы імя Чырвонасцяжнай Беларускай ваеннай акругі. Яны пісалі ў нашу рэдакцыю: *„Мы складаем гісторыю стварэння, адбудовы і развіцця калгаса „Новая Крыніца" Пружанскага раёна. Нам стала вядома, што ў гады панскай Польшчы на тэрыторыі Крыніцкага сельсавета вялікую рэвалюцыйную работу праводзіла ўраджэнка вёскі Ківачына, член КПЗБ, Вольга Габец, па-зверску замучаная нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Нам вядома, што ў Белавежы ёсць вуліца яе імя і там жа жыве яе сястра. Калі вам нешта вядома пра яе рэвалюцыйную дзейнасць і ёсць дакументы, якія датычаць яе, фота і г.д., просім нам паведаміць"*.

І вось стаім мы на вуліцы імя Вольгі Габец у Белавежы. Асфальтаваная яе стужка вядзе ад ускраіны мястэчка, Крыжоў, амаль да самай чыгуначнай станцыі Белавежа Палац, ёю ўязджаюць у Белавежу з боку Гайнаўкі. Навокал утульныя драўляныя або мураваныя домікі, аддзеленыя адзін ад другога невысокімі штыкецікамі платоў, згрудзіліся каля тратуараў ды кароценькіх бакавых вулачак, што адарваўшыся ад галоўнай вуліцы, зараз жа выбягаюць у поле.

Затрымліваемся мы на вулачцы Паўднёвай. Домік, у якім жыла В. Габец, змяніў свой папярэдні выгляд: цяперашнія жыльцы перабудавалі яго, абнавілі. На жаль, родная сястра В. Габец Галёна памерла некалькі год таму назад.

Пасля спаткаўшай нас няўдачы мы ўсё ж трапляем да людзей, якія жылі побач з В. Габец, сустракаліся з ёю, супрацоўнічалі і, наколькі дазволіла памяць, захавалі яе вобраз. Гэта белавежскія старажылы: Павел Сікорскі, 1902 года нараджэння, родны брат Рыгора

(Працяг на стар. 2)




БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ — 77

**Калектыў з Дабрывады каля Кляшчэляў. У сёлетнім цэнтральным аглядзе заняў ён другое месца ў катэгорыі фальклорнай песні (разам з калектывам са Скупава).**

**Фота К. Свідэрскага.**

## У АБАРОНЕ НАШАГА ЗДАРОЎЯ

Ужо некалькі гадоў у Беластоку працуе Цэнтр даследавання і кантролю асяроддзя. Заданне гэтай мала яшчэ вядомай у нас установы — па-першае, даследаваць умовы, у якіх жыве чалавек (чысціню паветра, вады, узровень шуму і г.д.) і, па-другое, кантраляваць, каб умовы гэтыя не пагаршаліся.

У апошні час гэта пляцоўка значна пашырыла сваю працу. Цяпер ніводнае прадпрыемства ў Беластоку і яго ваколіцах не мае права не толькі пачынаць працу, але нават будавацца, калі не атрымае дазволу гэтай установы. А дазвол выдаецца толькі тады, калі Цэнтр пераконаны, што новае прадпрыемства не будзе засмечваць і брудзіць асяроддзя, у якім жыве і працуе чалавек.

Дзякуючы таму, што ў нашым ваяводстве ў мінулыя гады прамысловасць развівалася слабей, чым у іншых ваяводствах, Беласточчына захавала яшчэ даволі чыстае паветра. Напрыклад, дапушчальная ў краіне норма пылу ў паветры ў жылых кварталах складае 250 тон на квадратны кіламетр у год. У Беластоку ж і ў Гайнаўцы, найбольш прамысловых гарадах нашага ваяводства, колькасць пылу складае толькі ад 70 да 200 тон на квадратны кіламетр у год. У іншых мясцовасцях гэтыя паказчыкі значна ніжэйшыя. Найгоршымі запыляльшчыкамі паветра ў нашых гарадах з'яўляюцца фабрычныя коміны (асабліва з электрацяплоўняў), пабудаваныя раней. Перабудова іх цяпер каштавала б непамерна дорага, таму трэба было задаволіцца паўсродкамі — устанаўленнем спецыяльных фільтраў, якія не даюць жаданага эфекту.

Што ж датычыць забруджэння паветра газамі, дык браць пад увагу можна толькі спаліны, якія выдзяляюць аўтамашыны. Але гэта таксама яшчэ не праблема ў нашым ваяводстве.

Найгорш, як паказалі даследаванні Цэнтра, выглядае ў нас справа чысціні вод, як рачных і азёрных, так і грунтовых. Практычна, у радыусе 30 кіламетраў вакол Беластока няма чыстай вады, няма нават такога месца, дзе можна было б без небяспекі для здароўя летам купацца. Не хапае таксама чыстай вады для забеспячэння горада Беластока. Найбольшая наша рэчка Нарва чыстая толькі ў сваім верхнім цячэнні. Першыя нечыстоты сплываюць у яе з камунальнымі сцекамі горада Бельска. Пагражальны стан ствараецца пры ўпадзенні камунальных сцекаў з Беластока ў ваколіцах Жоўтак, а зусім ужо кепская справа выступае пры новай цукроўні ў Лапах. Ачышчальня сцекаў гэтай цукроўні зусім не спаўняе сваёй ролі. У мінулым годзе лапская цукроўня заплаціла 7,5 мільёна злотых кары за тое, што спускае брудную ваду ў Нарву.

Сярод іншых атрутчыкаў рэк асобнае месца займаюць малачарні. Як паказваюць справаздачы малачарань, ані літр сыроваткі не марнуецца, нібы ўсё забіраюць сяляне на корм для жывёлы. Але так гавораць справаздачы. А вынікі кантролю, які праводзіць рэгулярна Цэнтр даследавання і кантролю асяроддзя, паказваюць, што, не-не, ды спусціць некалькі дзесяткаў гекталітраў сыроваткі нейкі неадказны працаўнік малачарні. Можа, не непасрэдна ў раку, а ў суседні роў, што і так адно на

(Працяг на стар. 4)

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"



## НЕ ДЛЯ АЦЭНКІ, А ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

Калі з кім-небудзь загаворыш пра школы ў Ружаным Стоку, кожны згадвае пераважна толькі сельскагаспадарчы тэхнікум, з якога выходзяць аграномы. Мала хто ведае, што там знаходзіцца цэлае аб'яднанне сельскагаспадарчых школ, у якое ўваходзяць: 5-гадовы і 3-гадовы тэхнікумы аховы раслін, 3-гадовы сельскагаспадарчы тэхнікум, школа механізацыі сельскай гаспадаркі, завочны, сельскагаспадарчы тэхнікум, а да іх у будучым 1977/78 навучальным годзе прыбудзе яшчэ 5-гадовы сельскагаспадарчы тэхнікум. Не мала! І вучняў таксама багата: на стацыянары займаецца 346 асоб і каля 180 асоб на завочным аддзяленні. Ружанаму Стоку па праву належыцца ганаровае званне кузні сельскагаспадарчых кадраў для паўночна-ўсходняй Беласточчыны не адно таму, што кожны год кадры сельскагаспадарчай службы павялічваюцца і ўзмацняюцца прыходам каля паўтары сотні высокакваліфікаваных спецыялістаў з ружанастоцкімі дыпломамі, але і непасрэдным уздзеяннем на сялян з гміны Дуброва Беластоцкая і сумежнымі з ёю ваколіцамі.

Іменна ў Ружаным Стоку ўзнікла задума праводзіць практычныя экзамены для вучняў завочнага сельскагаспадарчага тэхнікума не ў школе, а на месцы іх працы, г. зн. часцей за ўсё ў індывідуальных гаспадарках. Заданні былі падзелены на тры групы: раслінная вытворчасць, гадоўля жывёлы і агульнагаспадарчыя справы. І так, па раслінной вытворчасці вучань атрымоўвае адно з такіх заданняў, як паляпшэнне пастэўніка, закладка кампоставых прызмаў, прарэджванне і прышчэпка фруктовых дрэваў, вырошчванне зеляніны на квашанкі, адпаведнае захоўванне гною і г.д., па гадоўлі жывёлы — пабудова сіласу, нарыхтоўка квашанак, святло і вентыляцыя ў хлявах, абсталяванне месц для жывёлы, выпуст для

Працяг на стар. 4



**Мгр інж. Януш Васілеўскі — дырэктар аб'яднання сельскагаспадарчых школ у Ружаным Стоку.**

БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ

№ 220

## Пэрэгледаючы зд'енця

*нэподобны мы на іх
як два і два то штыры
як двіе каплі воды*

*дэсь колісь
штось там было
рыхтык
што-то молодыі ліета*

*А той діед
з рукамі
— поораным полём
знаю жэ так будэ*

*і што я
шпэц от затрымованя
часуов
бадач скал ксенжыцовых*

*рукі ховаю назад
я хочу віерыті
хочбы мінуту*

**З. Сачко**

* ✼ *

Я затапляюся ў цёплую коўдру
тваіх рук.
Я затапляюся ў валос тваіх
пярыну...
Хачу прынесці я табе
блакітных кветак запах
палявы, каб знала ты,
як добра
жыць прыродай,
ашалелай на досвітку
вясны-гулякі.
Хачу, каб вышла ты насустрач
шчаслівым дням,
што мо вязу з сабою...
Ты не сумуй,
ты абрывай штодзённа (з сябе)
заслону
з цёплых думак...
Я кветкі цёплыя
ад сонца
нясу ўжо у тваё жыццё.

**Юрка Харкевіч**

## Паўстанак Мора

*Я на Цэнтральным. Еду скорым,
Ён у тунелі пада мной.
Прашу білет: паўстанак Мора,
А ў сэрцы радасны настрой.*

*І як жа мне не ганарыцца!
Таго ніколі не было:
Вядомым сталася ў сталіцы
Маё радзімае сяло.*

*Час уцякае нам няспынна
І гоніць нас: „Хутчэй, хутчэй!"
Тым больш прыемна: на гадзіну
Мора да горада бліжэй.*

**Віктар Швед**

* ✼ *

Чарнее ноч,
Мая душа
Усё чарнее.
Не пераскочу дня,
Не пашыбую птушкай
Я у блакітны вырай.
Асколак сонца,
Кроплю сэрца
І запах
Ніколі не расцвіўшай кветкі
Насіць я буду.
Я буду
І спяваць
І плакаць...
Памалюся не раз,
Загадаю сваім вуснам
Маўчаць...
Буду піць
Твае словы.
Зелянець
Ад тваіх дум-возераў.
Але
Не хачу я забіць,
Не хачу я забіць
Пустым
Мёртвым
Словам
Чалавека.

**Надзея Артымовіч**

* ✼ *

Хацела б я Кальёпе ніць залатую
магчы ўхапіць,
уплесці яе ў жыццё. Цэлае!
Ніццю павучынай, далікатнай аплесціся
перад светам і... для свету.
Мыслі ў іх раззалаціць, раз'ясніць,
сэрца імі заіскрыць, запаліць!
І магчы спаліцца ў гэтым агні,
выбухлым, жыццём пульсуючым,
пачуццяў крошкі палаючыя,
іскрамі жывымі па свеце рассейваючы.
А калі ні святла, ні полымя не стане,
Калі сэрца цэлае развеецца ў дыме...
Ці астануцца хаця... часцінкі агня жывыя?
Ці пападуць яны, праніклнуць у сэрцы нечыя
— эмбрыён Кальёпе ці дасць плод?
Ці зноў хтосьці аб ніцях павучыных, залатых
прасіць не будзе,
каб жыццё сваё імі аплесці
перад светам і... для свету?

**Варвара Л. Кваніш**

* ✼ *

калі чакала
не прыйшоў
калі пытала
не сказаў
калі
ніколі больш
чакаць не буду
ніколі больш
не спытаю
не хачу слухаць
тваіх слоў
ветраных
як сам
не да мяне
ішлі твае ногі
не для мяне
ты пасылаў
сваю ўсмешку
дык чаму
у маім сэрцы
трывога
і боль
і надзеі
ніякай няма

**Агнія**

* ✼ *

Мы з табой галовамі
запёрліся ў сонца
а нагамі ў чорную глебу
вышэй і ніжэй
сягнуць мы не можам
і большымі
быць мы не ў стане
і меншымі
мы чорна-белыя
мы сонца-глебыя
як добра ўсё ўдалося
можа мы улілся
у возера шчасця
або возера шчасця
у нас улілося

**Алесь Барскі**

* ✼ *

Паслухай
струны
жыта іграюць
вецер
разносіць мелодыі
цыкання стракоз
жаўрукоў званочкі
прашу
выслухай
песню сэрца
прэлюдыю буры
выслухай
летнюю буру

**Вераніка Леанюк**

* ✼ *

*бадзяюся
па ўсходах ночы
я —*

*вылепленая
на форму чалавека*

*я —
уласны цень
так —
веру што я
гэта не я*

*ці дасягну
ўрэшце золку...*

**Ваву**

* ✼ *

святлісты промень сонца
засвяціў
над маёй галавой
і ясна стала ўсюды
я хацела бегчы
усім расказаць аб
шчасці маім
але
не пайшла нікуды
і ўсё ўва мне
асталося.

**К. Саўко**

### У ЧАС ПРАЕКЦЫІ ФІЛЬМА „ЛЕТЯТ ЖУРАВЛИ"

Не першы, а чацверты раз
З адкрытым хваляваннем
Іду я на спатканне
З „Белачкай" — Веранікай,
Славянкаю-мадоннай,
З каторай мы даўно сустрэліся ў кіно.

І кожны раз „Славянкі марш"
Гучыць у скронях звонам,
Пульсуе сэрца болем,
Бо Веранікі боль — боль мой,
Боль твой, боль наш.

Высока журалі плывуць, як караблі,
Іх крык смяротны раніў Вераніку;
І раніў моцна нас,
Бо не сцярпець нам ран,
Дзявочых ран славянкі — Веранікі.

Не першы, а чацверты раз,
Чацверты раз з глыбокім хваляваннем
Я плачу з Веранікай у кіно,
І не забыць мне гэтага спаткання.

**М. Варанецкі**

### КАМУ ТРАВІЦЦА?

З горада прыехаў сын. І не адзін. З жонкай, белай прыгажуняй. Бацька да вечара звінуўся ў лес, прынёс грыбоў. Дзеці елі смажаныя лісічкі, баравікі, падбярозавікі, маслякі і хвалілі. Потым набраліся ахвоты пайсці ў лес. Прыехалі ў водпуск, дык не сядзець у хаце. Раніцаю рушылі ў бліжэйшы лес. Хутка сталі напатыкаць карэнні. Хтосьці паспеў тут ужо пабываць. Сын раззлаваўся:

— Каб ён атравіўся...

Бацька не прызнаўся, што ўчора збіраў тут грыбы і што іх з'еў ён, сын, з жонкаю.

**Уладзімір Малашкевіч**

* ✼ *

*Сатрыце, ветры, сэрца ў попел
і кіньце у вясны растопы.
Хай памяшаецца
з зямлёю,
паветрам,
сонцам
і з вадою ўвойдзе
зелені ў аорты,
як жыватворны цудны лек.
І хай жыве прырода з сэрцам,
калі не ўмее чалавек.*

**Міхась Шаховіч**

## РАДУГА

...як коратка жывуць словы
я нядаўна бачыла радугу
яе чароўнасць
— чалавеку слоў не хапае
Яна паўкругам стаіць над галавой
як вароты да шчасця
да раю
ад зямлі бягуць колеры
на радасную сустрэчу
радуга расце ў сілу
— прыгажэе
— магутнее
. . . . . . . . . . . .
душа
сэрца
вочы
любуюцца
. . . . . . . . . . . .
я ішла
— закрытыя вочы
— абняць цэлы свет
— спяваць
— крычаць
. . . . . . . . . . . .
ў захапленні
— маўчала
. . . . . . . . . . . .
(колеры
разыходзяцца
бледныя рукі выцягваюць
пальцы
яны былі?
жылі?)

твае словы як радуга
мы як неба
хто ссылае дождж на мае вокны

часамі мой бацька як паэт гаворыць
— тое збожжа пад лесам
— ляжыць як пасцель

бачыла
як каласы угнуліся
як кладуцца цяжка на зямлю

многа
людзей
штодзень
пахіляе галовы
. . . . . . . . . . . .

была я пад лесам
падносіла каласы
доўга... так... доўга...
(ці выпадкова не цэлае жыццё)
хісталіся на ветры
— задумліва
кланяліся
да зямлі
— балюча глядзець
. . . . . . . . . . . .

жыццё
— сцяжынка толькі
— мяжа толькі
ў збожжы
. . . . . . . . . . . .

чалавек
не падніме
ўсіх каласоў
што любяць зямлю
паднімае і нахіляе
ломіць і лечыць

бацька гаворыць
— сярэдні ўраджай

**Ірэна Баравік**

## З рэпарцёрскіх запісак

### ЖЫЦЦЁ ЗА ПАПЕРКАЙ

Прыйшла да мяне Марыя Ярмоцік з Ванева, прывіталася, што чуваць запытала, і замоўкла.

— Я да вас з бядою, — урэшце пачала яна свой вельмі няскладны расказ, з якога даведаўся я, што ў верасні 1976 года, па просьбе сына Віталіса, 23-гадовага кавалера, купіла яна ў Нарве, у ГС-аўскай краме, новы тэлевізар **„Аметыст-1012“.**

Гэта добры апарат. Такі ж самы „Аметыст“ бесперабойна працуе ў мяне ўжо чацверты год.

У Ярмоцікаў сталася зусім інакш. Пад канец верасня і ў кастрычніку рэдка калі даводзілася ўключаць ім гэты тэлевізар. Капанне бульбы, сяўба, уборка агародніны. Дзе ж там у галаве тэлевізар! Каб хутчэй да падушкі. Але пазней... Малады Ярмоцік, Віталіс, запісаўся ў тэлевізійны сельскагаспадарчы тэхнікум. Рашыў падмацаваць свае веды. Дык сядзеў ён начамі пры сваім тэлевізары і намагаўся пасняваць за думкамі выкладчыкаў.

Раптам пад канец лістапада тэлевізар замоўк. Ні голасу, ні вобразу. Ярмоцікі выклікалі майстроў з Гайнаўкі, **каб згодна з законам адрамантавалі ім гэты тэлевізар у рамках гадавой гарантыі.** Майстры прыехалі, а як жа, расклалі свае адмысловыя прыборы, раскруцілі тэлевізар і загадалі даць ім **„паперку“,** значыць **гарантыю.** Было іх двое. Адзін паглядзеў на другога і абодва ўскочылі на жанчыну:

— Што вы, дурняў з нас робіце?! Гэта ж або не тая гарантыя, або не той тэлевізар! Тут зусім іншыя нумары! Паглядзіце: вы маеце гарантыю нумар 523521 на тэлевізар № 56480, а ў вас тэлевізар нумар 71518. Як жа так можна людзей ашукваць!

І пакінулі майстры сапсаваны тэлевізар без рамонту. Бо не тэлевізар важны, а паперка. Без паперкі на варшаўскай фабрыцы не заплацілі б за рамонт, без паперкі проста нельга дакрануцца да гэтага тэлевізара.

Ускіпелі ад злосці Ярмоцікі і паперлі з гэтым тэлевізарам назад у Нарву, у краму, дзе прадаўшчыцай працуе вопытная **Валя Кур'яновіч.** У краме якраз знаходзіўся непасрэдны начальнік пані Валі, старшы рэферэнт па справах гандлю нараўскага ГС-у **Мікалай Пост.** Ну і завязалася бурлівая спрэчка, аж людзі збегліся. Ярмоціха, жанчына хворая, з нервамі растропанымі, слоў не падбірала, адно толькі патрабавала, каб забралі ад яе к чорту гэты тэлевізар і вярнулі ёй грошы, не малыя, бо звыш 6000 зл. Не разумела жанчына, што без паперкі прадаўшчыцы гэтага нельга зрабіць, што дзеля гэтага патрэбны ёй паперкавы загад ад сваіх начальнікаў: І ўявіце сабе: Ярмоцікі з тэлевізарам пруцца ў магазін, а скляповая са сваім начальнікам Постам цвёрда ў магазін не пускаюць. Канчаткова перамаглі Ярмоцікі. Пакінулі гэты няшчасны тэлевізар у краме і асталіся без тэлевізара і без... **грошай.** Малады Ярмоцік спыніў навуку ў тэлевізійным тэхнікуме, а цётка Марыя яшчэ болей расхварэлася. А ўсё з-за гэтай паперкі, значыць, **гарантыі, якую недзе, праўдападобна, яшчэ на варшаўскай фабрыцы, нехта падмяніў.**

— Мы хацелі як найлепш, — завярае мяне Мікалай Пост з нараўскага ГС-у і паказвае цэлую папку паперак, якая ўжо накапілася ў справе тэлевізара Ярмоцікаў. Сапраўды, паперак ёсць многа. **А тэлевізара няма.** А хутчэй стаіць ён у магазіне, у краме. І ніхто не ведае, што з ім рабіць, бо стаіць там бясправаўна. Калі будуць праводзіць рэманент у краме, прадаўшчыцы Валі Кур'яновіч палічаць яго ў суперату. Сябра Пост стараецца. Пісаў найперш на варшаўскую фабрыку і тры з палавінай месяцы чакаў адказу, каб даведацца, **што ГС у Нарве не мае права пісаць непасрэдна ў Варшаву, а толькі па службовай лініі праз Беласток.** Былі і паперкі з Беластока і ў Беласток, і ад Ярмоцікаў і да іх. Усе спасылаліся на параграфы і інструкцыі, а тэлевізара няма. Так і праходзіў час. Наступіў сакавік, распачаўся красавік, а Ярмоцікі ўсё асталіся без тэлевізара і... без грошай. З-за адной паперкі. Бо паперка ў нас важнейшая ад чалавека.

**Віктар Рудчык**

---

Ад рэдакцыі: у апошняй хвіліне ГС у Нарве прыслаў нам наступнае пісьмо:

W dniu 6 kwietnia 1977 roku Ob. Jarmocik otrzymał zreperowany telewizor wraz z gwarancją zgodną z fabrycznym numerem. Okres gwarancji na ten odbiornik został przedłużony o okres przetrzymania telewizora w depozycie sklepu AGD w Narwi, tj. o okres od dnia złożenia reklamacji do czasu odebrania odbiornika telewizyjnego przez reklamującego.

## Людзі добрай работы

# Міхал Дрозд

Ураджэнец вёскі Скупава ў Нараўкаўскай гміне, што на скраі Белавежскай пушчы, Міхал Дрозд вядзе 13-гектаровую гаспадарку. Пачынаў ён гаспадарыць у раннія гады свайго жыцця і палюбіў працу на зямлі. Шэсць гадоў таму назад, заахвочаны поспехамі ў гаспадаранні, пабудаваў новую клуню. Вядома, трэба ж было кудысьці звезці збожжа ды сена, якога з кожным годам прыбывала. А дзякуючы таму, што завёў больш шляхетнай травы і пачаў сеяць больш мінеральных угнаенняў на сенажаці (без іх не расці высокаўраджайным травам), уласных кармоў было дастаткова. Папоўніў іх яшчэ кармавымі буракамі, і гэта дазволіла павялічыць колькасць кароў. Калі ўжо было больш кароў, неабходнай была адпаведная абора. Прасторную светлую абору пабудаваў ён два гады таму назад. Адразу пачаў гадаваць восем кароў, дваццаць свіней, у тым ліку чатыры свінаматкі, ад якіх мае дастаткова парасят для далейшай гадоўлі.



Працалюбівы гаспадар прадае дзяржаве ў сярэднім больш тоны мяса і 600 кілаграмаў жыта. Апрача таго, кожны дзень дастаўляе ў мясцовую злеўню 30 і больш літраў малака. У мінулым годзе Міхал Дрозд купіў новы трактар і машыны да яго. Пачаў уводзіць лепшую апрацоўку зямлі дзякуючы ведам, якія здабыў на сельскагаспадарчых курсах.

Міхал Дрозд — гэта таксама здольны канструктар-самавук. Да мінулага года касіў траву на лузе ды ездзіў у лес да вывазкі клёцаў самаробным „трактарам“, які склаў, выкарыстоўваючы рухавік „эс“ і з іншых частак розных машын, якіх не бракуе на пунктах скупкі злому. Мае ён таксама свой такарны станок і электразварачны апарат. Дзякуючы такім прыладам ён самастойна рамантуе сельскагаспадарчыя машыны. А той самаробны трактар прадаў. За чатырнаццаць тысяч злотых. Купец на яго знайшоўся ў Чарлянцы.

Варта адзначыць, што ў будучыні вопытны скупаўскі земляроб будзе спецыялізавацца перш за ўсё ў гадоўлі малочных ды мясных кароў.

**Тэкст і фота Я. Цялушэцкага**

## Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

*ВЯСНЯНКА*




*Ой Божэ, мой Божэ, што ж то й мніе робіті?*
*Як мніе, молодэнькуой, ворогам годіті?*
*Як мніе, молодэнькуой, ворогам годіті?*
*Выйду я ў чорнэнькуом — кажут, што я дурна,*
*выйду ў біелюсенькуом — кажут, што я мудра.*
*Выйду ў біелюсенькуом — кажут, што я мудра.*
*Як я заспіеваю — кажут, што я п'яна,*
*як іду тіхенько — кажут: „Опэнтана“.*
*Як іду тіхенько — кажут: „Опэнтана“.*
*Я й на тое само й нэ буду тужыті,*
*бо ім всіем завідно, што мніе добрэ жыті.*
*Бо ім всіем завідно, што мніе добрэ жыті.*

Ад Веры Міхалюк, 56 год, вёска Курашава гм. Чыжы, запісаў 3 лютага 1977 года Мікалай Гайдук. Нотная транскрыпцыя з магнетафоннай стужкі Людмілы Панько.

## Беларусіяна

### НЕПАХІСНАЯ ВЕРА Ў ПЕРАМОГУ

У гэтым годзе спаўняецца 100 год з дня нараджэння А. С. Новікава-Прыбоя. Яго раман „Цусіма“, перакладзены на мовы розных народаў, палюбіўся і нашым чытачам. У мартаўскай кніжцы журнала „Москва“ надрукаваны ўспаміны Барыса Няверава-Скобелева „Дваццаць год побач з аўтарам „Цусімы“. Беларускія народныя паэты Янка Купала і Якуб Колас сябравалі з А. С. Новікавым-Прыбоем. Вось што піша, напрыклад, Барыс Няведаў-Скобелеў пра самую памятную сустрэчу пісьменнікаў: „Асталася ў памяці сустрэча Аляксея Сільча з Янкам Купалам і Якубам Коласам, калі яны ў запыленай „эмцы“ прыехалі да Новікавых, чуць паспеўшы выскачыць з Мінска перад тым, як яго занялі немцы.

— Затрымайся мы яшчэ на мінут пяць, — апавядаў Якуб Колас Аляксею Сільчу, — і не ўгледзеў бы ты нас больш ніколі... Але будзь спакойны, Сільыч... Не даб'ецца Гітлер перамогі... Цэлымі вёскамі ідзе народ у партызаны, і не будзе немцам і адной мінуты спакою... Перамога будзе за намі.“

Было гэта ў першыя дні вайны 1941 года.

**Ул. М.**

# Сялянскі сход

У вёсцы Зубава Бельскай гміны адбыўся сялянскі сход. Вёў яго солтыс вёскі Міхал Дзмітрук. Размовы датычылі вартавання, парадкавання панадворкаў, нумароў на хатах, грамадскага чыну ў вёсцы. Актыўны ўдзел у дыскусіі прынялі Мікалай Андрэюк, Мікалай Ігнацюк, Сцяпан Вязоўскі, Іван Карпюк, Лявон Нічыпарук. Прыемна было пасядзець у сялянскай цёплай хаце.

**Дубінка**

Міхась Шаховіч апублікаваў верш, у якім стараецца даказаць, што трэба ў штосьці верыць. Верш прыгожы, але як на дваццатае стагоддзе — надта аптымістычны. На жыццё трэба глядзець рэальна. Цяпер ніхто нікому і нічаму не верыць. Гавару няпраўду? Вось прыклады, пад цяжкасцю якіх не ўстаяць самыя ярыя аптымісты.

1. Усім вядома, што ад дваццаць першага сакавіка існуе вясна. А дзе яна? Холадна не толькі ў хаце, але і як выйдзеш на двор без кажуха, то табе холад усе костачкі перабярэ, і зноў хутчэй палезеш у пасцель. А колькі людзей у амбулаторыях: чакаюць, каб хутчэй узяць бальнічны лісток і таксама палягаць у ложку. Да гэтага дрэннага надвор'я далучылі яшчэ і свята. Якраз мусілі збегчыся Вялікдзень з Вельканоччу. Пабачце, колькі сёння перамочаных, каб не сказаць перамучаных людзей. Ну, пытаю, у што верыць, у тое, што напісана, ці ў рэчаіснасць?

2. Адзінаццатага красавіка сустрэў мяне Язэп Д. з вёскі Грабавец і, паздароўкаўшыся, спытаў: „Васька, ты хлапец бывалы і мо больш, чым я, газеты чытаеш, скажы мне, дзе было напісана, што ПКС перадаў свой табар прыватным уладальнікам, бо часта чуваць, што цяпер аўтобусы ПКС належаць да прыватных.




## ...Ат, ты нічога не ведаеш...

Я вырачыў на яго вочы, не ведаю, куды ён гне. Язэп убачыў маё здзіўленне і папрасіў, каб я менш здзіўляўся, а больш сачыў за прэсай, бо калі людзі гавораць, то дзесь чулі.

— Вось, — гаварыў дзядзька, — напрыклад, восьмага красавіка шафёр аўтобуса ПКС, які з Гайнаўкі ў Кляшчэлі ад'язджаў а трэцяй гадзіне пасля поўдня, нагрузіў поўны аўтобус народу, пабраў ад усіх грошы, а білета не даў нікому. Я не вытрываў і кажу, каб даў білет. Але шафёр выкрыкнуў: „Замаўчы“! Бо калі мне гэта не падабаецца, то магу пакінуць аўтобус і пятнаццаць кіламетраў дралаваць пяшком. Тады я, як і ўсе, палажыў па сабе вушы і замаўчаў. Едучы, думаў: „Вось які гэты час добры. Шафёр атрымлівае гатовенькі аўтобус ад ПКС-у і спакойна сабе зарабляе грошы, ды яшчэ дзяржава дае яму гаручае, механікаў, каб рамантавалі, і пенсію кожны месяц“.

Да логікі Язэпа я пачаткова аднёсся скептычна, пакуль не прыпомніў сабе:

3. Мяне таго ж самага восьмага красавіка нешта падобнае спаткала ў Беластоку, як яго ў Гайнаўцы. Праводжу я дачку, зяця і іх маленькую дачушку, значыць, сваю ўнучку на вакзал ПКС у Беластоку, бо яны мелі ехаць (і паехалі) а $13^{00}$ альштынскім аўтобусам-люксам у Шчытна. Вядома, ехалі на пару дзён, то трэба было з сабой забраць і каляску. Яна маленькая, бо шпацырная. Шафёр памясціў яе з чамаданамі ў сховак і патрабаваў ад зяця 35 (трыццаць пяць) злотых аплаты. Зяць заплаціў, але не атрымаў у замен ніякага білета, ані квітанцыі. У чыю кішэнь пайшлі гэтыя грошы?

Гэты факт пераканаў мяне, што сапраўды аўтобусы ПКС у прыватных руках.

**Васіль Петручук**

## Krzysztof Krawczyk



**ФОТА ПА ЗАКАЗУ**

**Заказвалі:**
Юрка Рыбак з Галадоў, Багуся Гарадкевіч з Мастаўлян і Ян Врублеўскі з Бельска.

## КАНСУЛЬТАЦЫЯ ЮРЫСТА

ПЫТАННЕ: Гр. П. аддаў зямлю дзяржаве і атрымоўвае пенсію. Карыстаецца з участка абшарам 0,5 га. Трымае карову. Дагэтуль карову пасвіў на зямлі дзяржаўнага зямельнага фонду. У гэтым годзе ГРН пастанавіла забараніць сялянам пасвіць быдла на зямлі дзяржаўнага фонду, у склад якой уваходзіць таксама зямля, якую П. перадаў дзяржаве за пенсію. П. не мае дзе пасвіць карову. Ён пытаецца, ці гмінная рада мела права забараніць яму пасвіць на полі, якое ён апрацоўваў больш пяцідзесяці гадоў.

АДКАЗ: Грунтамі дзяржаўнага зямельнага фонду распараджаюцца гмінныя ўлады. Іх абавязкам з'яўляецца рацыянальнае загаспадаранне гэтых зямель. Ці можна лічыць за загаспадараныя грунты, якія ляжаць адлогам і служаць толькі для выпасу быдла? Гэта з'яўляецца недапушчальным марнатраўствам народнага багацця. У сучасны момант, калі дзяржава вымушана купляць за граніцай збожжа і кармы, абавязкам гмінных улад і ўсіх сялян загаспадарыць кожную пядзь зямлі. Калі нарадовая рада вырашыла забараніць пасвіць быдла на землях дзяржаўнага фонду, то напэўна зрабіла гэта з мэтай загаспадарвання грунту. Яна не толькі мае на гэта права, але і абавязак. Каб пракарміць карову, трэба шукаць іншага выхаду, а перш за ўсё інтэнсіўна загаспадарваць пакінуты пенсіянеру ўчастак.




Дарагое Сэрцайка, з Міркам хаджу я ўжо тры гады. Яшчэ перад войскам пасябравалі. А што жывем мы на вёсцы, дык чутна аб гэтым не толькі ў нашай вёсцы, але і далей. Зачапіліся людзі за тое, што я за Мірка старэйшая. Мне ўжо 25 год, а Мірку — 21. Яшчэ пакуль Мірэк у войска не пайшоў, шумна было ў вёсцы. Гаварылі, што як у войска пойдзе, то напэўна пакіне мяне. Мы аднак перапісваліся, ён мяне наведваў, калі толькі змог прыехаць. Восенню ўжо вярнуўся дамоў. І людзі ўбачылі, што не парваліся нашы кантакты. Плёткі насіліліся. Але нішто не змагло нас разлучыць. І мы ўжо хочам пажаніцца. Заявілі бацькам. Мае — нічога, а Міркавы — супраць. І што цяпер рабіць? Мірэк адзін у бацькоў, добрая гаспадарка. Але як жа я туды пайду? І ў нас я адна дома асталася, брат у горадзе жыве. Мае бацькі згаджаюцца, каб мы ў нас жылі. Але крыўдна, што яго бацькі нязгодныя. Што тады рабіць, парай, Сэрцайка. Ці сапраўды, калі дзяўчына старэйшая за хлопца, то так дрэнна?

Галя з Бельшчыны

Галя! Гады значэння не маюць. Важна, каб кахалі адзін другога. І на плёткі не зважайце. Пляткаркі толькі і шукаюць, каб за нешта язык зачапіць. Практычна на вёсцы не пазбегне гэтага ніводная маладая пара. І калі браць гэта да сэрца, ды адзінкі маглі б пажаніцца. Крыху непрыемна, што тэсці супраць, але думаю пройдзе ім гэта, калі ўбачаць, што добра і згодна жывеце.

**Сэрцайка**

Дарагі Астроне! Сняцца мне дзіўныя сны, сніцца, што мой сын быў такі худы, чорны, а зубы ў яго былі такія няроўныя — адзін доўгі, другі малы, і ўсе хісталіся, проста вывальваліся. Можна было іх усе выкінуць з рота. А сам ён быў такі слабы, што ледзь гаварыў і прасіў нас, каб мы яго завезлі да доктара.

А другі сон, што я купіла пяць свечак у царкве і ставіла іх перад іконамі. Чатыры паставіла, а пятай ніяк паставіць не магла, яна была без кнота і такая мяккая, што ніяк не стаяла. Што абазначаюць мае сны? Са страхам чакаю адказу.

Оля з Ягаднік

Сніцца, што нейкая жанчына купіла паўбуханка хлеба. Я чамусьці здзівіўся і пытаю: „Чаму толькі паўбуханка? Мая жонка купіла цэлы буханак". І што дзіўна, я трымаў поўную жменю іголак. Што гэта такое?

Коля

**ВЕР-НЕ ВЕР**

**Оля з Ягаднік!** Сны вашы вельмі цікавыя, але, на жаль, добрага не прадвяшчаюць. Нядобры і першы сон, і другі. Калі б у першым прысніліся вам зубы белыя і здаровыя, абазначала б гэта здароўе для вашага сына і поспех. Калі сняцца зубы вялікія, няроўныя, чорныя ці брудныя — абазначае гэта хваробу і беднасць. У вашага сына зубы былі няроўныя і слабыя, хісталіся і вывальваліся, ды і сам ён быў худы і чорны. Паграджае яму нейкая небяспека. Дык сачыце за ім і за яго здароўем.

Другі ваш сон быццам бы пацвярджае першы. Гаворыць ён аб тым, што чакае вас нейкая страта, вы ж ніяк не маглі паставіць пятую свечку, бо была яна без кнота і мяккая, ды ніяк не хацела стаяць.

**Коля!** Найбольш істотныя тыя іголкі, бо хлеб жа не выступаў выразна ў вашым сне. Ёсць у вас, здаецца, шмат ілжывых сяброў, якія на самай справе гатовы вас прадаць. У апошні час, на жаль, пераканаецеся ў гэтым.

**Астрон**

**Ці Вы ўжо выпісалі „Ніву"?**

**КУТОК ПРАКТЫЧНЫХ ВЕДАЎ**




### ВЯСНОЙ І ЛЕТАМ

Простая спартыўная сукенка — усё ж рэч найбольш патрэбная ў нашым гардэробе, нягледзячы на тое, што паралельна з імі існуе мода на фальклорныя элементы, на тэхас, на рамантычны стыль. Усё ж кожная жанчына, якая мусіць штодзень ісці на работу, найлепш адчувае сябе ў скромнай (але элегантнай) шміз'ерцы (сукенцы са спартыўным каўняром — як пры мужчынскай кашулі), якая можа быць пашыта як з аднастайнага, так і з каляровага (у кветкі, клетку, палоску) матэрыялу. Рукаў можа быць як доўгі, так і да локця, можна нашыць таксама накладныя кішэні. Спераду спадніца пашырана веерам. На шыі — шалік, а ў таліі — скураны пасок.



Можна таксама зрабіць сабе на лета модны ўжо на працягу многіх сезонаў сарафан. Той, які мы паказваем на здымку, мае даволі цікавы фасон. Асабліва цікавыя ў ім кішэні. Сарафан варта пашыць з матэрыялу добрага гатунку (напрыклад, з шэрсці); калі збіраемся насіць пад яго нейкія каляровыя, у кветкі, блузачкі (так, як на здымку), дык варта ўзяць матэрыял аднатонны. Цікава б выглядаў такі сарафан і з нейкага клетчатага матэрыялу, тады пад яго трэба было б апранаць аднатонную блузачку па колеру адной з клетак.

Усе мадэлі на лета — незанадта доўгія.

**Сяброўка**




З таго моманту, як утварыўся Керчанскі плацдарм, армія і мясцовае насельніцтва былі поўныя самых радасных надзей і лічылі, што гэта снежаньская перамога была першым крокам да поўнага выгнання немцаў з Крыма. Усе былі ўпэўнены, што пройдзе некалькі месяцаў, нашы войскі пачнуць новае наступленне, і вораг канчаткова пакоціцца на захад. Гэтыя надзеі, здавалася, станавіліся яшчэ больш трывалымі дзякуючы паведамленням, якія прыходзілі з Севастопаля, — горад-герой упарта трымаўся і адбіваў адзін штурм ворага за другім.

Да канца зімы і вясной 1942 года на Керчанскі плацдарм з таманскага берага Каўказа перакідваліся ўсё новыя войскі, і наша камандаванне распрацоўвала планы наступлення ў Крыме, рыхтуючыся нанесці праціўніку наступны ўдар. Але вораг апярэдзіў нас.

У канцы красавіка немцы сцягнулі з іншых участкаў фронту ў Крым вялікую колькасць танкаў і авіяцыі. У першых чыслах мая на фронце супраць нашых Акманайскіх пазіцый загрукаталі нямецкія гарматы. Вораг нанёс раптоўны і магутны ўдар, і атакаваныя знянацку нашы часці не ўстаялі. Пасля некалькіх дзён упартых баёў 8 мая 1942 года фронт быў прарваны. Імкнучыся спыніць ворага і замацавацца на прамежкавых рубяжах, савецкія войскі з баямі адыходзілі ў бок Керчы і праліву. Стала зразумела, што плацдарм утрымаць не ўдасца.

Караблі Чарнаморскага флоту і Азоўскай ваеннай флатыліі пачалі эвакуацыю войск з Керчанскага плацдарма. Былі мабілізаваны ўсе плывучыя сродкі, і праз Керчанскі праліў дзень і ноч плавалі катэры, буксіры з баржамі, сейнеры і проста рыбацкія лодкі, перавозячы абаронцаў Керчы на Вялікую зямлю — таманскі бераг Каўказа. Але ўмовы эвакуацыі былі надзвычай цяжкімі — авіяцыя ворага бясконца вісела над пралівам, штурмуючы і засыпаючы бомбамі судны, і нямала нашых караблёў у гэтыя дні затанула ў моры. А калі немцы падышлі бліжэй да Керчы, пад агнём іх гармат апынулася ўсё ўзбярэжжа і сам праліў. Як ні па-геройску дзейнічалі маракі, якія перакінулі цераз праліў ужо звыш ста тысяч чалавек, іх намаганні былі безвыніковыя. Цяпер толькі нямногім караблям удавалася падысці да берага, прарваўшыся скрозь агнявую заслону ворага, пад бесперапыннымі бамбёжкамі. А на ўзбярэжжы збіраліся ўсё большыя масы людзей, якія адступалі сюды з раёна Керчы ў надзеі пераправіцца на каўказскі бераг.

У наваколлях ахопленай полымем, разбуранай Керчы яшчэ змагаліся нашы войскі. Самая вялікая група, якая бесперапынна папаўнялася адступаючымі з фронту падраздзяленнямі, умацавалася ля ўваходу ў Аджымушкайскія каменяломні, і калі немцы абышлі яе з флангаў, яна заняла там кругавую абарону і працягвала весці бой. Другая група змагалася каля Багераўскіх каменяломняў, але яе супраціўленне ворагу ўдалося неўзабаве падавіць. Больш упартая барацьба разгарнулася ў руінах металургічнага завода імя Войкава, дзе былі акружаны разрозненыя рэшткі некалькіх нашых часцей. Яны пратрымаліся дзён пяць, а калі супраціўленне далей стала немагчыма, апошнім ударам прарвалі варожае кальцо і прабіліся на злучэнне з гарнізонам Аджымушкайскіх каменяломняў.

На ўскраіне Аджымушкая, ля галоўнага ўваходу ў каменяломні, ішоў шматдзённы і цяжкі бой. Тут была створана даволі трывалая абарона. Камандаваць ёю даручылі старшаму лейтэнанту Мікалаю Бялову, вопытнаму баявому афіцэру, які, дарэчы, да вайны быў чалавекам зусім мірнай прафесіі — дырэктарам аднаго з птушкагадоўчых саўгасаў Крыма і цяпер на сваёй гімнасцёрцы пастаянна насіў як баявую ўзнагароду залаты медаль Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі. Мясцовасць вакол уваходу ў каменяломні была выгаднай для абаронцаў, і роты старшага лейтэнанта Бялова на працягу некалькіх дзён упэўнена адбівалі кулямётным, ружэйным агнём і гранатамі атакі ворага, якія бесперапынна паўтараліся. Аднак доўга гэтак працягвацца не магло.

Сюды, у раён Аджымушкая, немцы перакінулі часці, якія вызваліліся пасля баёў. Пехацінцы Бялова, якіх ворагі засыпалі мінамі і снарадамі, цяснілі танкамі, ужо не маглі больш утрымацца на паверхні зямлі. Рады абаронцаў змяншаліся з кожнай гадзінай, і хутка ім давялося пакінуць свае пазіцыі і адысці ў глыбіню каменяломняў. Так пачалася абарона падземнай крэпасці Аджымушкай. **(Працяг будзе).**

ЗОР-КА

## ГАЛУБЫ

Над нашым домам кружаць галубы,
Чародкай лёгкай зніклі між аблокаў,
Іх кліча хлопчык голасам слабым,
Каб мог, дык сам падняўся б ён высока.

Не хмурся, дарагі, праз некалькі хвілін
Захочуць галубы на дах спусціцца,
Дзе ўтульнае гняздо яны сабе звілі,
Дзе ім пастаўлены вадзіца і пшаніца.

Над нашым домам кружаць галубы,
Зноў вернуцца, па даху пройдуць бокам
І будуць буркаваць, наставіўшы чубы...
А мары хлопца панясуць далёка.

Ст. Шушкевіч



№ 18 (1031) ГАЗЕТА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ 1.V.1977 г.

**Анатоль Астрэйка**

## Юныя рамеснікі

*Раз сышліся на дворы*
*Юныя рамеснікі*
*І пачалі гаварыць*
*Аб сваіх прафесіях:*
*Што каштоўней і важней*
*Для краіны і людзей.*

*Першы кажа: — Я тачу*
*Рэчы далікатныя.*
*Справу токара лічу*
*Самаю выдатнаю.*
*Нават трактар без мяне*
*Кола з месца не кране!*

*— Муляр з цэглы дом*
*кладзе —*
*Сценка ў сценку роўныя,*
*Вы не знойдзеце нідзе*
*Працы больш шаноўнае:*
*Дзе ні вуліца, ні пляц,*
*Як паглянеш — мой палац!*

*— А шавец? Браток, уваж!*
*Чым жа не выдатны я?*

**Рыгор Ігнаценка**

## Гняздо

Дзень быў светлы, цёплы. На небе ні хмурынкі. Усюды чуліся вясёлыя птушыныя галасы. Асабліва стараліся чырванагрудыя берасцянкі. З вершалін высокіх елак у сіняву блакітнага неба ўзляталі лясныя канькі. Лес поўніўся тонкім крыштальным перазвонам. На сонечных палянках белымі астраўкамі красаваў курасленп, зрэдку траплялiся сіня-фіялетавыя кветкі сон-травы. Усё гэта — і спевы птушак, і першыя веснавыя краскі, і ласкавае паветра — хвалявала і радавала нас.

— Хлопцы, гняздо! — раптам усклікнуў Федзя.

— Дзе? — перапыталі мы.

— Вунь, на сасне. Хадземце бліжэй.

— Напэўна, каршун пасяліўся, — першы падбег Пеця.

— Гляньце, з гнязда хвост тырчыць! — зноў усклікнуў Федзя. — Там птушка сядзіць.

Угору паляцелі палкі, сырыя леташнія шышкі. Але ўсё дарэмна. Гняздо было высока, і дакінуць да яго нікому з нас не ўдавалася. Нягледзячы на шум і мітусню, хвост у гняздзе не варушыўся. Цікава было даведацца, чыё гэта гняздо. Але як? Узлезці на дрэва ніхто б з нас, вядома, не змог, апрача Пеці.

— Памажыце, — разуўшыся, папрасіў ён.

Мы дружна падхапілі сябра за ногі і паддалі ўгору. Цяжка сапучы, Пеця пагробся па ствале.

Калі ён кранууся рукой першых сукоў, з гнязда раптам зляцела вялікая чорная птушка. Неспакойна азіраючыся, неахвотна паляцела прэч.

— Пецька, злазь! — закрычалі мы. — Гэта крумкачова гняздо.

Але Пецька моўчкі лез далей. Дабраўшыся да сука, на якім было гняздо, лёг жыватом на сук і пацягнуўся да гнязда.

Мы затаілі дыханне. Знізу нам не відаць, што ён там робіць.

*Вы без ботаў, без гамаш*
*Ні на што не здатныя, —*
*А ў абутку — любата! —*
*Ці мароз, ці хлюпата!*

*— Слова даць і мне пара,*
*Марна вокал ходзіце.*
*Лепшай, чым у друкара,*
*Працы вы не знойдзеце:*
*Без кніжок ды без газет*
*Не абходзіцца ўвесь свет!*

*Што каштоўней і важней*
*Для краіны і людзей?*

*Слаўны наш любімы край,*
*Працаваць нам весела, —*
*Хоць любую выбірай*
*Ты сабе прафесію!*
*Хай жыве наш родны край!*



— Напэўна, пуста, — кажа Федзя.

— Чаго ж тады крумкач сядзеў там? — не згадзіўся я. — Доўга не ўцякаў з пустога гнязда.

Мы пачалі спрачацца.

Тым часам Пеця злез з дрэва. Мы засыпалі яго пытаннямі.

— Адно яйка было, — неахвотна буркнуў ён.

— Пакажы, дзе яно?

— Не ўзяў.

— Чаму?

— Пашкадаваў.



— Як пашкадаваў?! — здзівіліся мы.

— Разумееце, першае яйка. Магчыма, на ўвесь наш лес першае, — неяк блытана тлумачыў ён.

— Ну і што з таго?..

— Што, што? Сам не ведаю што... Узяў яго ў рукі, а яно цёпленькае, нібы вынутая з цяпла бульбінка. Шкада стала...

— Ну і дурань! — абурыўся Толік. — Дарэмна толькі лез.

Пеця неяк вінавата паглядзеў на сябра і моўчкі стаў нацягваць чаравікі на адубелыя ногі.

Мы яшчэ доўга хадзілі па лесе ў гэты вясновы дзень. Як і раней, звонка спявалі птушкі, булькалі, паблісквaючы на сонцы, жвавыя ручаінкі, у паветры прыемна пахла адталай зямлёю і леташнім лісцем, але размова ў нас не ладзілася. Кожны, відаць, думаў пра Пецю, ніяк не разумеючы, што адбылося з ім сёння. З тым самым Пецем, які за ўсё сваё жыццё хоць яшчэ і не дужа вялікае, не пакінуў у спакоі ніводнай напатканай птушкі, ніводнага гнязда.

# Мацейка Попельны

## РУСКАЯ НАРОДНАЯ КАЗКА
(Заканчэнне)

Падхапіў Мацейка Попельны ногі ў рукі — трэба ж як-небудзь да берага дабрацца. Плыў ён, плыў доўга ці коратка, зусім знясілеў. А ў гэты час узняла яго хваля і выкінула на бераг. Адпачыў крыху і ўспомніў пра птушку Магай: „Ну, не век жа тут ляжаць! Хоць кулём пакачуся, а дабяруся да таго месца, дзе збан з гаючай вадой закапаны".

Раптам бачыць, ідзе да берага чалавек, на кожным кроку спатыкаецца.

Крыкнуў Мацейка Попельны:

— Куды ты ідзеш? Не бачыш хіба, што наперадзе вада?

— Так і ёсць, сляпы я — не бачу дарогі.

— Ну, тады ідзі на мой голас.

— А ты хто такі і што тут робіш?

— Я ляжу, хадзіць не магу: у мяне ногі да каленяў адсечаны.

Падышоў сляпы бліжэй і кажа:

— Калі ты відушчы, сядай да мяне ў кайстру — я цябе панясу, а ты дарогу паказвай.

Пасадзіў сляпы Мацейку Попельнага ў сваю кайстру:

— Чуў я ад старых людзей: ёсць недзе жывая вада. Вось каб нам яе знайсці! Ты б тою вадою ногі загаіў, а я б вочы памазаў і свет убачыў.

— Ведаю я, дзе ёсць гаючая вада. Нясі мяне, а я дарогу буду паказваць.

Ішлі яны так палеткамі шырокімі, лясамі цёмнымі, цераз імхі-балоты перапраўляліся і прыйшлі ў той лес, дзе Мацейка Попельны ў непагадзь птушанят выратаваў. Падышлі да старога дуба, зняў сляпы кайстру з плеч. Падкаціўся Мацейка Попельны да дрэва і выкапаў медны збан. Памазаў гаючай вадою вочы свайму пабраціму — сляпы пачаў бачыць. Плача і смяецца ад радасці.

— Дзякуй, добры чалавек, век тваё дабро памятаць буду!

— Цяпер дапамажы мне ногі прыставіць.

Прыставілі ногі як належыць, пырснулі жывою вадою — прыраслі ногі.

— Ну, вось абодва мы здаровыя, — кажа Мацейка Попельны. — Пойдзем цяпер паглядзім, што робіцца ў нашым царстве.

Выпілі яны па глытку гаючай вады — і ўсю стому як рукою зняло, а сілы ў іх падвоіліся.

Выйшлі з лесу — і неўзабаве паказаўся наперадзе горад. Каля самага горада на царскіх лугах вялікая чарода кароў пасецца. Падышлі бліжэй — і пазнаў Мацейка Попельны ў пастуху свайго ранейшага цара.

Мацейка пытаецца:

— Чыё гэта царства?

Заплакаў пастух:

— Ой, людзі добрыя, не ведаеце вы майго гора! Было гэта маё царства, і быў я раней царом, а цяпер вось кароў пасу. Доўга цараваў нежанатым, потым высватаў за трыдзевяць зямель, у трыдзесятым царстве, у цара Вахрамея, дачку-асілка, Настассю Вахрамееўну. Даведалася яна, што не асілак я, і загадала кароў пасвіць, а сама пачала кіраваць царствам.

Кожны дзень, як прыганю дадому кароў, лае мяне, зневажае ўсяляк і корміць упрогаладзь.

— А помніш, я табе казаў: „Будзе і прыгожая дзяўчына, ды не табе ёю валодаць“? Зноў, відаць, усё па-мойму выйшла.

Тут цар-пастух пазнаў Мацейку Попельнага і заплакаў яшчэ мацней.

— Ох, Мацейка Попельны, дапамажы мне царства вярнуць! Я цябе за гэта міністрам зраблю, а твайму пабрацiму ваяводства дам.

— Ласкавы ты і на абяцанкі шчодры, калі бяда прыцісне, а забыўся, як за маю ранейшую службу ўзнагародзіў? Трэба было б цябе смерцю пакараць, ды не хочацца рукі пэцкаць. Ідзі прэч з гэтага царства, каб духу твайго тут не было! Трапіш яшчэ раз на вочы мне — наракай на сябе!



Як пачуў цар-пастух гэтыя словы, да смерці напалохаўся і кінуўся наўцёкі. Толькі таго цара і бачылі.

А Мацейка Попельны са сваім пабрацімам прыйшлі ў горад і папрасіліся ў бабулі-задворанкі пераначаваць.

Старая на Мацейку Попельнага паглядвае:

— Недзе я цябе бачыла, добры маладзец! Ці не ты раней на царскі двор ваду вазіў?

Падняўся ён:

— Я, бабуля.

— Ох ты, дзіцятка любае, жывы ды здаровы вярнуўся. А тут чутка пайшла, нібы цябе і жывога няма.

Пачала бабуля завіхацца, добрых малайцоў напаіла, накарміла, лазню напаліла. Памыліся госці з дарогі, напарыліся і паваліліся спаць. А бабуля пайшла на царскі двор і сказала:

— Вярнуўся ў горад Мацейка Попельны.

Дайшла гэтая вестка і да царскіх пакояў. Раніцою царыца дзяўчыну пасылае:

— Пакліч хутчэй Мацейку Попельнага!

Прыйшоў Мацейка Попельны на царскі двор. Убачыла яго Настасся Вахрамееўна. З высокага ганачка хуценька збегла, за белыя ручкі ўзяла:

— Не той мой суджаны, што кароў пасе, а той суджаны, што ўмеў мяне высватаць! Думала я, цябе жывога няма.

Расказаў ёй Мацейка Попельны ўсю праўду. Павяла яго царыца ў святліцу, паставіла на стол рознага пітва ды яды. Частуе госця:

— Еш, мілы, еш, дружа!

Напіўся, наеўся Мацейка Попельны, пачаў развітвацца:

— Трэба мне з'ездзіць бацькоў праведаць.

Загадала Настасся Вахрамееўна карэту запрэгчы:

— Едзь, прывязі хутчэй бацьку з маці, няхай з намі жывуць.

Прывёз Мацейка Попельны бацькоў, і неўзабаве вяселле згулялі.




Ці даводзілася вам задумацца над уласнай асобай? Напрыклад, які я? Што аба мне думаюць іншыя? Што я сам у сябе лічу добрым, а што дрэнным?

Не здарылася? Дык вось, прапаную сёння вам адказаць на некалькі пастаўленых пытанняў. Адкажыце на гэтыя пытанні спачатку самім сабе і паспрабуйце знайсці на адказы тлумачэнне, чаму вы думаеце якраз так, а не інакш. Потым напішыце гэтыя адказы ў „Зорку“, абавязкова з тлумачэннем, з доказам.

А вось пытанні:

1. Як ты думаеш, які ты чалавек?

2. Што ты найбольш любіш?

3. Чаго найбольш не любіш?

4. Хто табе здаецца найбольш вартасным чалавекам? Да каго ты хацеў бы быць падобным? Хто твой ідэал?

5. (для хлопцаў) Ці дзяўчынка можа быць добрым сябрам?

6. (для дзяўчат) Ці хлопец можа быць добрым сябрам?

7. Ці фізічная сіла, моцныя мускулы — гэта залог аўтарытэту?

8. Якім павінна быць тваё адзенне? Што ты наогул аб гэтым думаеш?

9. Што значыць „быць культурным чалавекам“?

10. Ці варта падказваць на ўроку?

11. Што такое абавязак?

12. Аб якой прафесіі ты марыш?

Не забудзьцеся падаць у пісьме да „Зоркі“ сваё імя, прозвішча, узрост і адрас. За ўдзел у гэтай анкеце дзесяць найшырэйшых адказаў будуць узнагароджаны. Улічвацца будуць толькі шчырыя адказы.

А ў сябе ў школе, у класе, або ў застэмпе прапануем правесці гульню з пытаннямі. Няхай кожны напіша адказы на картках, а потым можна перакаканацца, ці так аб вас думаюць сябры, як вы самі. Можна таксама спрабаваць адгадваць, чый гэта адказ, чый партрэт. Але ў такім выпадку адказы павінны быць абсалютна шчырыя, а пытанні павінны датычыць найбольш характэрных рыс характару.

Калі гульня такая ў вас атрымаецца цікава, спадабаецца сябрам, абавязкова напішыце нам, падзяліцеся вопытам і раскажыце, якія пытанні аказаліся найбольш цікавымі.

„Зорка“




* * *

СССР, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Мичурина 6, кв. 6. Барасий Валентине. Дзяўчынка вучыцца ў 6 класе.




## ВІТАЙ, ДАРАГАЯ „ЗОРАЧКА"!

Я пішу да цябе пару слоў. Я малая, мне чатыры гады. І я яшчэ не ўмею пісаць. Таму піша за мяне мая старэйшая сястра, якая вучыцца ў чацвертым класе. Але яна піша з маіх думак, я ёй усё дыктую. Яна купляе мне штодзень „Ніву" і чытае мне розныя казкі з „Зоркі". А найбольш то мне спадабалася казка „Як „Зорка" ў свет пайшла". Мая сястра вучыцца ў школе № 3 у Бельску і вывучае беларускую мову. Я таксама туды пайду, калі вырасту. Мы вельмі дзякуем табе за такія прыгожыя казкі. У мяне ёсць такія ж малыя сябры, і яны таксама дзякуюць за казкі і просяць, каб іх было больш і больш. Я буду прасіць сястру, каб зноў напісала да цябе.

**Да пабачэння. Ёсць яшчэ другі лісток. Мы разам.**

**2-ГІ ЛІСТОК.**

Яшчэ некалькі слоў напішу да вас. На пачатку я не напісала, як мы завемся. Малодшая сястра — гэта Ёля Парфенюк, а старэйшая — я, Дарота. За вашу цяжкую працу высылаем вам прыгожыя карцінкі. Я, Дарота, напішу яшчэ да вас асобна.

**Ёля і Дарота. Бельск.**

**Ад рэдакцыі:** *Дзякую вам, сястрычкі, за цікавае пісьмо і за прыгожыя карцінкі. Цудоўна былі размаляваны і канверты, у якіх вы і ваша сяброўка Эля Сліўко прыслалі мне пісьмы. Чакаю з нецярплівасцю пісем ад вас.*

*„ЗОРКА"*

* ✲ *

## ДАРАГАЯ „ЗОРАЧКА"!

Я вучуся ў трэцім класе ў Бельску. У школе мы вывучаем беларускую мову. Я ўмею чытаць пабеларуску і ахвотна чытаю твае казкі. Высылаю табе святочныя пажаданні на адкрытцы, якую я сама зрабіла, і карцінкі. Вельмі прасіла б, каб карцінкі вы надрукавалі ў „Зорцы". Напішу яшчэ да вас.

**Эля Сліўко, Бельск**

**АД РЭДАКЦЫІ:** Дзякую табе, Эля, за прыгожую адкрытку з так цудоўна зробленай ружай. Але надрукаваць карцінак не магу. Надрукую, калі ты сама нешта прыгожае намалюеш і прышлеш. Тваю адкрытку вешаю на „зорчыну" выстаўку.

**„Зорка"**

---

* ✲ *

Яўгень Мароз, Юрка Тамашук, Юрка Яцко, Янка Леснік, Славэк Максімюк, вучні восьмага класа, в. Рыбалы, пошта 17-104 Рыбалы, Беластоцкае ваяводства.

* ✲ *

СССР, г. Баку, пос. Хурдалан, 28 квартал, дом 7, кв. 44. Галаян Зое.

* ✲ *

СССР, г. Баку, пос. Хурдалан, 27 квартал, дом 7, блок 6, кв. 65. Гарик Шахназарян (вучань 3 класа), Эльмира Шахназарян (вучаніца 4 класа).

* ✲ *

Яўгень Кардаш, 15 год, в. Новая Воля, пошта 16-050 Міхалова, Беластоцкае ваяводства.

# ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

* ❊ *

— Ты зусім нічога не робіш, — кажа стараста класа Уладзіку. — Ты ўвесь час нечым заняты!

— Ну, вось бачыш, — адказвае Уладзік, — калі заняты, значыць, заўсёды нешта раблю!

* ❊ *

У Сашы спыталі ў школе:

— Ці бачыў ты калі-небудзь дзятла?

— Бачыў па тэлевізары.

— А калі ў лесе з бацькамі быў — не бачыў?

— Не, — уздыхае Саша, — мы, калі ў лес едзем, тэлевізара не бярэм.

* ❊ *

На ўроку біялогіі Пеця сказаў:

— Кветкавая расліна складаецца з лісця, сцябліны, кораня і суфікса.

## А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А



**Вазьмі каляровы аловак і замалюй палі, абазначаныя кропачкай. Каго ты бачыш на малюнках?**

Адрас рэдакцыі: „Зорка“ 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.